Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 3000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты **36.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 7000 мк., сярод тэксту 6000 м. і на 4 стр. 5000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 4. Вільня, Нядзеля, 2-га верасьня 1923 г. Год I.

## Дзьве дарогі.

Нядаўна ў польскіх газэтах мільганула вестка, якая павінна прымусіць сур'ёзна задумацца кіраўнікоў польскае „нацыянальнае", ці хутчэй „антынацыянальнае" ў адносінах да меншасьцей, палітыкі.

Латвія, ўваходзячы ў Лігу Нацыяў, была прымушана абязацца, што падпіша ўмову аб ушанаваньні правоў нацыянальных меншасьцяў у сваіх межах. Прайшлі гады, а Латвія гэткага забавязаньня не падпісала. Затое Латвія зрабіла нешта другое: яна, незалежна ад вымаганьняў Лігі Нацыяў, сама сваім думам і бяз ніякага прымусу стварыла для сваіх меншасьцяў такія варункі жыцьця, што тым абсалютна няма на што наракаць. А тады латвійскі ўрад падаў у Лігу заяву, ў якой апавяшчае аб усім зробленым дзеля забясьпячэньня правоў нацыянальных меншасьцяў і пытаецца, ці ёсьць цяпер наагул патрэба падпісываць забавязаньне, якое ўжо споўнена?

Рада Лігі Нацыяў ні на папярэдняй, ні на цяперашняй сэсіі сваей гэтага пытаньня на парадак дня не паставіла, і гэта найбольш красамоўны адказ, дадзены Латвіі: справа гэткая ясная, што аб ёй няма чаго гаварыць.

Польшча даўно падпісала ўсе забавязаньні аб забясьпечаньні правоў нацыянальных меншасьцяў. Але ні воднае з гэткіх забавязаньняў ня споўнена... Затое польскі ўрад зьвярнуўся да Рады Лігі Нацыяў, каб тая ня прымала скаргаў ад меншасьцяў на ўціск іх у Польшчы, бо, з трактатам з 28 чэрвеня 1919 году, справы аб нарушэньні забавязаньняў адносна да меншасьцяў могуць падаваць у Раду толькі сябры Лігі Нацыяў. Польскае выступленьне зроблена затым, што жыдоўскія нацыянальныя арганізацыі „Joint Comitee" (у Лёндыне) і „Allianbe Israëlite" (у Парыжу) запратэставалі перад Лігай Нацыяў проці ўвядзеньня ў польскіх унівэрсытэтах **працэнтнае нормы** для „інародцаў" (т.-зв. „numerus clausus), і Рада Лігі запатрабавала ад Польшчы аб'ясьненьняў у гэтай запраўды дзікай справе.

Як бачым, дзьве суседнія дзяржавы, Латвія і Польшча, пайшлі ў справе аб нацыянальных меншасьцях зусім рознымі дарогамі. Першая самахоць дала меншасьцям тое, да чаго фармальна не забавязалася; другая, не спаўняючы сваіх забавязаньняў, стараецца ўсяляк агранічыць права нагляду Лігі над палажэньнем меншасьцяў у Польшы, стараецца, груба гаворачы, заткнуць горла „інародцам", каб ад болю, ад пачуцьця зьдзеку і крыўды ня крычалі на ўвесь сьвет.

Ды ўсё гэта—дарэмна. Здарэньне з жалабай жыдоўскіх заграні́чных арганізацыяў паказуе, што Рада Лігі Нацыяў ужо добра разабралася ў тым, што творыцца ў Польшчы. I трэба думаць, што, сьледам за жыдамі, на дарогу безпасярэдніх жалаб у Лігу Нацыяў на немагчымае палажэньне нашага народу ў Польскай дзяржаве будуць прымушаны ўзыйсьці і беларусы. Мо' нават ня тутэйшыя беларусы (ім бы жыць пасьля ня далі за гэткую сьмеласьць!), а хаця-бы тыя беларускія замежныя арганізацыі што пратандуюць на прадстаўніцтва ўсенькае—цэлае і непадзельнае—Беларусі.

Ні польскі ўрад, ні польскі Сойм слухаць нас ня хоча. За кожным соймавым выступленьнем нашых паслоў з дамаганьнем ушанаваньня правоў беларускага насяленьня ідзе нязьменна ўсё мацнейшы і мацнейшы нациск на беларусаў. I чым мы больш жалімся тым, хто нас уціскае, тым цяжэйшым робіцца нашае палажэньне.

Мы ўжо дайшлі да такога стану, што трудна выдумаць нейкія новыя ўдары па беларусах. „Obywatelstwa" нашага ўрад не прызнае, хаця мы ад вякоў жывём на гэтай зямлі. Нам вядамы такі прост непадобны да веры факт, што ўлада цэлую вёску запісала „obcokrajowcami" і выдала ўсім жыхарам яе „Karty pobytu"... А як улада адносіцца да нашае школы, мовы, культурных і эканамічных арганізацыяў, часопісаў і г. д., аб гэтым столькі ўжо пісалася, што нудна паўтарацца. Дык ясна, што, ня маючы ўжо больш нічога, што мы маглі-бы страціць, нам мо' ўжо пара ня толькі ў Польскім Сойме, але і пашукаць ратунку ў Лізе Нацыяў — за межамі Польшчы, як ў апошняй легальнай інстанцыі?

Гэта—нашае права. I раней ці пазьней з яго прыдзецца скарыстаць. Да гэтага прымушае сам польскі ўрад.

**Ст. Мірскі.**

## Славакі.

Славакі—асобны й самастойны славянскі народ з сваёю асобнаю мовую.

Край свой славакі называюць: Slorensko (Славенска, Славенскі край); на свайго мушчыну кажуць: славак, а на сваю жанчыну—славенка.

Славаччына ляжыць, прыблізна гаворачы, між Карпатаў, Маравы, Дуная і верхніх прытокаў Тысы.

Да вайны славакі былі пад Угоршчынай (Вэнгрыяй); там іх душыла мадзярскае ярмо. Цяпер, з канца 1918-га году, славакі знаходзяцца пад уладай так званае **Чэха-Славацкае** рэспублікі, дзе душыць іх чэскае ярмо.

Усяго славакаў налічаецца больш-менш тры мільёны. У самым краі жыве каля двух з паловаю мільёнаў. На эміграцыі ў Амэрыцы—блізу паўмільёна. У сталіцы Угоршчыны—Будапэшце і ў сталіцы Аўстрыі—Вене жыве іх па тысяч 50—60.

Апроч таго, славакі жывуць перамешана з чэхамі, украінцамі; ёсьць іхныя куткі ў Аўстрыі, Баўгарыі.

Славацкая мова блізкая да чэскай, да польскай, да украінскай і беларускай, як і наагул ца славянскіх моваў. Беларус лягчэй зразумее славацкую мову, чымся чэскую альбо польскую. Славак лягчэй разумее беларуса, ці украінца чымся маскоўца. Славацкая мова мае некалькі гутарак. Галоўных дыялектаў, як і ў нас, тры: ўсходні, серадовы і заходні. Усходні славацкі дыялект дужа блізкі да галіцка-украінскіх і заходня-беларускіх дыялектаў.

Па веры дзеляць славакаў прыблізна так: каталікоў каля 70 проц. і пратэстантаў каля 30 проц. Апроч таго, ёсьць славакі-уніяты і праваслаўныя.

Такім чынам, па веры і зьвязаных з ёю культурных перажытках славакі дзеляцца на дзьве галоўныя часткі, што мела і, на жаль, яшчэ мае важнае значэньне ў іхняй гісторыі

У гэтай гісторыі славацкага народу і яго змаганьня за незалежнасьць, беларус можа знайсьці шмат падобнага да свае роднае гісторыі.

Спачатку славакі ўваходзілі ў склад Вяліка-маравускае дзяржавы і разам з чэха-маравамі прынялі хрысьціянства ( у IX стагодзьдзі).

Дзяржаву гэтую перамаглі мадзяры, (907 г.), і тады славакі трапілі пад уладу Угоршчыны. Нейкі час славакі былі пад Чэхіяй, або пад Польшчаю—за Балеслава „Храбрага" (992—1025 г.). Але мадзярскі кароль Стафан „Вялікі" (1064—1038 г.) ізноў забраў іх пад Угоршчыну.

I вось, як некалі беларусы, дзеля свае большае культурнасьці, спраўлялі важную работу й мелі важнае значэньне у дзяржаўным і культурным жыцьці Вялік. Князьства Літоўскага, так славакі ў працягу XI—XIII стагодзьдзяў поўнілі больш-менш падобную-ж ролю ў жыцьці Угоршчыны. Як у В. К. Л. панавала беларуская культурная стыхія, і дзяржаўнаю моваю была беларуская, так і ў Угоршчыне славакі і іхная мова калісь былі на гэткай культурнай вышыні. Па-славацку пісаліся акты, граматы, царкоўная літэратура.У XIV стагодзьдзі зьяўляюцца ў славакаў нацыянальныя дзеячы, якія падвышаюць Славаччыну да блізу незалежнае дзяржавы. Гэта былі: **Мацьвей Транчанскі,** які здабыў ад мадзярскага караля блізу поўную незалежнасьць дзеля Славаччыны, і яго наступнік, **Фаліцыян Зах,** які ў змаганьні з новым угорскім каралём знайшоў сьмерць—сваю й усяе свае радні. Гэтыя дзеячы нагадваюць тых беларуска-літоскіх магнатаў, якія змагаліся за незалежнасьць Беларусі—Літвы ад Польшчы і ад Маскоўшчыны.

У XV—XVI ст. ст. славацкія паны, дзеля свае клясавае карысьці, абмадзярыліся, зрабіліся вэнграмі, як некалі падобным шляхам беларускія паны абпалячыліся. Афіцыяльнаю моваю ў Угоршчыне зрабілася лаціна, і яна аслабіла значэньне славацкае мовы.

У XV-жа стагодзьдзі сярод славакаў пачало шырыцца гусіцтва. У Славаччыне зьявілася шмат чэхаў, распачаўся шырокі ўплыў чэскае культуры. Урэшце **чэская мова зрабілася дзеля славакаў моваю царквы й літэратуры.**

Бараніць славацкую культуру ад чэхізацыя ня стала каму, бо славацкія паны зрабіліся мадзярамі і разам з мадзярскаю арыстакратыяй страшэнна ўціскалі свой славацкі сялянскі народ.

У 1514 г. славацкія сяляне паўсталі, але паўстаньне было крывава здушаны панамі, і ў Славаччыне на доўгі час запанаваў панскі прыгон.

Як і ў нас калісь: спачатку шырока пайшла рэфармацыя, а потым зьявілася каталіцкая рэакцыя, таксама было і ў Славаччыне. Пры чым, як у нас гэтая рэакцыя замацавала польскі ўплыў, так сярод славакаў яна замацавала чэскую мову, прынесеную гусітамі, бо рэфармацкія працаўнікі карысталіся ў сваей дзеяльнасьці сярод славакаў чэскімі перакладамі.

Нацыянальна-культурнае адраджэньне славакаў пачалося, як і ў нас, у канцы XVIII веку, і таксама з адраджэньня мовы, з жаданьня ўвесьці родную мову і літэратуру ў жыцьці.

Ужо раней у славакаў былі пісьменьнікі хоць ужываўшыя чэскую мову, але працаваўшыя ў той чужой мове дзеля роднага краю (найбольш з каталікоў). Іх можна параўнаваць з нашымі пісьменьнікамі XVII ст, пісаўшымі моваю, далёкаю ад народнае мовы ці зусім папольску.

У канцы XVIII стаг., у палове XIX стаг., зьяўляюцца славакі-пісьменьнікі, найбольш пратэстанты, якія хоць і ня могуць яшчэ перайсьці зусім з чэскае на славацкую мову, але горача любяць свой край, зьбіраюць народную творчасьць і наагул робяць той грунт дзеля адраджэньня, які ў нас рабілі польска-беларускія і маскоўска-беларускія пісьменьнікі XIX века (Чачот, Шпілеўскі і інш.). Можна зрабіць і такое параўнаньне: як наша абпалячаная інтэлігэнцыя пад маскоўскім уціскам несьвядома працавала ў польскай мове дзеля беларушчыны, так зчэхізаваная славацкая інтэлігэнцыя пад мадзярскім уціскам несьвядома працавала ў чэскай мове дзеля славаччыны. У нас было ўва ймя Польшчы ці Маскоўшчыны, там было ўва ймя Чэхіі. У нас дайшло да сьведамага беларускага грунту, і там таксама.

Першым асновапаложнікам славацкага руху быў **Антанін Барналак** (1762—1813). Бельмі вучоны чалавек, ён дужа сур'ёзнаю навуковаю працаю давёў, што яго народ—ня чэскае племя, а самастойны славянскі народ, які мае права на самастойную літэратуру на сваей мове. Ён-жа паклаў пачатак сучаснай літэратурнай славацкай мове, ўзяўшы ў аснову заходні яе дылект, даволі блізкі да чэскае мовы, і даў першыя законы славацкаму правапісу.

Барналак выйшаў з каталіцка-славацкай сфэры. Пасьля яго стварылася цэлая літэратурная і грамадзкая група працоўнікаў адраджэньня. Новы літэратурна-грамадзкі рух паддзержвалі найбольш славакі-каталікі. Пратэстанты-ж яшчэ лічылі чэскую мову агульна-літэральнаю для чэхаў і славакаў, а славацкую ўжывалі толькі ў дадатковым набажэнстве, ў патрэбах „простых“ людзей.

З такіх славакаў, працаваўшых дзеля агульнага чэска-славацкага нацыянальнага адраджэньня, выйшлі й два вядомыя дзеячы: Шафарык і Колар. Цяпер, у змаганьні з славакамі, чэхі любяць спасылацца на прыклад Шафарыка й Колара, забываючыся на тое, што час зьмяніўся.

Пасьля Барналака найбольш выдатным дзеячам славацкага адраджэньня быў **Людавіт Штур** (1815—1856), выйшаўшы з сям'і евангэліцкага вучыцеля. Ён быў вучоны, пісьменьнік, горача змагаўся за палітычную свабоду, адчыніў першую славацкую газэту, ўсе свае сілы аддаў на соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне славакаў з-пад палітычнага мадзярскага й культурнага чэскага ярма.

Каля Штура стварылася вялікая школа літэратурных і грамадзкіх працаўнікоў, зрабіўшых дужа многа для роднае культуры й вызваленчага руху. У гэты час былі й змаганьні за большы ці меншы ўплыў у літэратурнай славацкай мове таго ці іншага дыялекта, але гэта пайшло толькі на карысьць хутчэйшаму й лепшаму выпрацаваньню мовы.

У рэвалюцыйныя годы 1848—1849. Штур і яго сябры дзеяльна змагаліся за славацкія правы. 19-га мая 1848 г. адбыўся першы славацкі кангрэс, на якім апрацавана была праграма дзеяльнасьці і пералічаны былі галоўныя дамаганьні славакаў. Славакі дамагаліся тады школы на роднай мове, афіцыяльнага прызнаньня славакаў за асобны народ з належнымі, як такому, правамі і г. д.

Угорская ўлада абвесьціла ў адказ на гэта ваеннае палажэньне ўва ўсёй Славаччыне. Мадзярскія зьдзекі, аднак, яшчэ болей усьведамілі славацкую народную масу, і началося ўзброеная паўстаньне. Славакі сабралі 8.000 войска і зьвярнуліся з просьбаю аб падмозе да сэрбаў і харватаў. Біцца ім прыйшлося на два фронты: Супроць мадзяр і супроць аўстрыякаў. Неўзабаве, аднак, калі мадзяры паўсталі супроць аўстрыякаў, аўстрыякі папрасілі ў славянаў помачы супроць мадзяр і славакі шмат памаглі ім абараніць дзяржавы. Уславіўся тады начальнік славацкіх паўстанцаў Язэп Гурбан.

Аўстрыйскі ўрад ашукаў славакаў Ён баяўся й Штура й Гурбана, як рэвалюцыянэраў, і пайшоў таксама шляхам уціску, і ў Славаччыне к уціску мадзярскаму толькі дабавіўся яшчэ ўціск нямецкі.

У 1861 г. быў другі славацкі кангрэс, які пастанавіў дамагацца аўтаноміі, прызнаючы непадзельнасьць Угоршчыны. Але буда-пэшцкі парлямэнт нічога не адказаў на просьбы славакаў. А калі з 1867 г. славакі апынуліся выключна пад угорскім панаваньнем, пачалася страшэнная мадзярызацыя Славаччыны і дзікі ўціск беднага мужыцкага славацкага народу панамі-чужынцамі. У гэты час ня толькі ўлада ўгорска, але й шырокае мадзярскае грамадзянства адносілася варожа да славацкага руху і спадзявалася задушыць яго за колькі дзесяткаў гадоў.

Але славакі змагаліся яшчэ з большай моцаю. Прыгнечаныя эканамічна, яны сталі выяжджаць у Амэрыку, адкуль прысылал грошы на культурную працу. І „Вільняю“ славацкага адраджэньня стаўся горад Турчанск сьв. Мартын. Там ёсьць нацыянальны славацкі дом, навук. бібліятэка, музэй, тэатр, навукавае таварыства, банкі, славацкія газэты й журналы й розныя інш. арганізацыі.

За астатні час у славакаў зьявілася шмат новых, маладых і вялікіх сілаў у змаганьні за незалежнаць Славаччыны.

Цяпер славакі прымушаны змагацца... з чэхамі! Чэскія палітыкі, груба кажучы, набраліся за апошнія гады вялікае амбіцыі; па прыкладу сваіх антанцкіх прыяцеляў яны захапіліся імпэрыялізмам і шовінізмам. Яны ня хочуць даць Славаччыне навет аўтономіі, а тым часам пустошаць славацкі лес, дапусьціўшы да яго эксплёатацыі розныя заграні́чныя фірмы. Словакі ўбачылі, што прыгожым словам ад „брата“ Масарыка нічога не даб'ешся і цяпер пераходзяць на рэвалюцыйны грунт. Уцёкшы з чэскае няволі, славацкія незалежнікі разьвілі энэргічную й шырокую працу заграніцаю, выдаюць шмат газэт, кніжак, арганізуюцца, купляюць аружжа і наагул рыхтуюцца абвесьціць незалежнасьць Славаччыны і выгнаць аружнаю рукой чэскае панаваньне з роднага краю. Чэхі хочуць пасварыць славакаў між сабою, але гета ім не ўдаецца, ня гледзячы на тое, што й збоку славакаў-каталікоў было зроблена колькі памылак. Сярод славацкіх каталіцкіх груп лішне многа клерыкалізму, яны хочуць разьвіць ненавісьць католікаў-славянаў к чэскаму „гусіцтву“, тады як народ славацкі больш разумее незалежніцкія заклікі, пабудаваныя на чыста-соцыяльным грунце.

**В.**

# Палітычныя падзеі.

## АНГОРА.

(Ад нашага карэспандэнта).

Турцыя Кемаль-пашы гэта бадай адна дзяржава на ўвесь сьвет, у якой няма апазыцыі. Для турка Кемаль-паша бяз малага другі Магамэт і цяпер ад кожнага турэцкага грамадзяніна пачуеш адзін і той-жа адказ:

— Кемаль-паша наш сьцяг і наша праграма!

У Кемалёвай Турцыі верхаводзіць адзін сойм, міністры толькі падпісываюць пастановы гэтага сойму. Кожны міністар мае 200 турэцкіц лір у месяц пэнсіі, ня больш кожнага пасла і ў вачох народа міністар ёсьць звычайны ўрадовец.

Ангора ў апошнія часы стала другім Канстантынопалям для кожнага турка—там канцэнтруецца усё палітычнае жыцьцё Турцыі, Ангора даволі вялікае сяло з хатамі і асаблівасьцяй турэцкага селяніна. У гэтым сяле быў усяго адзін біаскоп ды й той згарэў яшчэ ў 1921 г.

Сам Кемаль жыве ля Ангоры, на фольварку „Чанкая“. Кемаль зусім эўропэйскі чалавек, на перакор стараму турэцкаму звычаю, мае ўсяго адну жонку Лаціфэ-Ханун, якая добра ведае французскую і нямецкую мовы і служыць тлумачом свайму мужу. Лаціфэ-Ханун, як і шмат ужо якія турэцкія кабеты, ходзяць не закрываючы сваго твару, дужа прыгожая і разумная кабеціна яна заўсёды стаіць у абароне працоўнага люду, аб яе добрых учынках сярод народу ходзіць шмат цікавых сказаў.

Жыцьцё Ангоры цячэ нудна, бяз цьветна, як і ўсюды на ўсходзе, пасьля 9—10 гадзіны ніводнай душы не спаткаеш на вуліцы. Ды турэцкі дзень тым і розьніцца ад начы, што ў дзень ажываюць мінарэты, а кабеты з авечкамі бегаюць узад і ўперад, ды турэцкі гандляр заклікаючы купляць розныя пернікі ды цукеркі наганяе нуду.

**М. Запольскі.**

## ПОЛЬШЧА.

Зьмены ў кабінэце п. Вітоса маюць наступіць у бліжэйшыя дні. Аканчальна установлена, што заместа Ліндэ міністрам фінансаў будзе п. Кухарскі, які адбыў доўгую нараду з старшынёю міністраў. Заместа п. Кухарскага міністрам прамысловасьці і гандлю будзе пасол Шыдлоўскі (пяст), пры якім віцэміністрам застанецца інж. Кедронь. Міністрам працы заместа Дароўскага застанецца сэнатар Смульскі (ха-дэк), міністрам публічных работаў п. Брыль (пяст), урэшце міністрам дарог заместа Карлінскага будзе альбо п. Добржыцкі, альбо п. Носовіч.

---

На конфэрэнцыі старшыні міністраў з маршалкам Ратаем пастаноўлена ня склікаць Сойм на кароткую надзвычайную сэсыю ў верасьні але ў палове кастрычніка. Упрацягу бліжэйшых дзён маршалак мае замер адбыць рад нарадаў з правадырамі опозыцыйных клюбаў, каб дабіцца ад іх прыхільных адносінаў да ўрадовых проектаў.

---

У хуткім часе ў „Dzienniku Ustaw“ будзе апублікавана, ухваленая Соймам і Сэнатам устава аб падатку ад маемасьці. Гэты падатак у агульнай суме 1 мільярд залатых франкаў будзе пабірацца ў працягу трох гадоў ад 1924—1926 у 6 паўгадовых ратах. Ступень працэнтовая падатку выносіць 1, 2 проц. пры маёнтку 3.000 залатых франкаў і паступова павялічываецца да 13 проц. пры вартасьці маёнтку звыш 16 мільёнаў зал. фр. 500 мільёнаў зал. франкаў заплацяць земляўласнікі; 375 мільёнаў зал. фр. прамысловыя і гандлёвыя прадпрыемствы I—V катэгорыі і 125 мільёнаў з. фр. усе іншыя уласнікі маемасьці.

Маемасьць меншая за 3.000 зал. фр. і хатнія прадпрыемствы вартасьці ня больш 5.000 зал. фр. не падлягаюць падатку ад маемасьці. Падатак ад маемасьці будзе вызначаны на падставе вартасьці маемасьці ў дзень 1-га ліпня г. г.

---

У Варшаве забаставалі працаўнікі на ўсіх варшаўскіх пад'ездных чугунках, дамагаючыся выплаты 32,25% дадатку на дарагоўлю.

---

28 жніўня ў Варшаве арыштавана шмат асобаў, якія вінавацяцца ў камуністычнай дзейнасьці.

---

Узрост дарагоўлі ў другой палавіне жніўня аблічаны на 30,12 проц. Такім чынам дараўля ў жніўні павялічылася на 72%.

---

З 1-га верасьня зноў падвышаецца цана на тытунь і папаросы на 20%. Гэта ўжо шостая звышка за часаў хьена—пястоўскага ўраду.

## НЯМЕЧЧЫНА.

Фінансавы крызыс у Нямеччыне усіліваецца. 29 жніўня курс доляра падняўся да 8.200.000 мк. ням. Дарагоўля расьце. У мэталічнай прамысловасьці зноў пагражае забастоўка. На днях мае адбыцца галасаваньне ў большай частцы мэталургічных прадпрыемстваў: прыняць ці адкінуць пастанову палюбоўнай камісіі ў справе заработнай платы.

---

У Бохуме ўведзена асаднае палажэньне. Французы рыхтуюцца пашырыць окупацыю на новыя абшары.

---

Карэспандэнт „Kurjera Polskiego“ паведамляе, што асобы, блізка-стаячыя да баварскіх манархістычных колаў адтрымалі сакрэтныя паведамленьні, заклікаючыя да распачацьця падрыхтоўкі на выпадак зьдзейсьненьня плянаў утварэньня Наддунайскай монархіі, якая будзе складацца з Баварыі і Аўстрыі пад уладай баварскага караля Рупрэхта.

## С. С. Р. Р.

Гаспадарчая сытуацыя Радавых Рэспублік паляпшаецца. Вытварчасьць прамыславасьці ўсьцяж, з месяца на месяц павялічываецца.

У Данецкім басэйне ў чэрвені б. г. што дня дабывалася 1.271.000 пудаў вугальля, ў той час калі ў тым самам месяцы леташняга году дабывалася што дня толькі 1.029.000 пуд. З павяліченьнем вугальнай прадукцыі паляпшаецца і стан данецкіх капальняў. Лік работнікаў у Данецкім басэйне павялічыўся ў параўнаньні з верасьнем 1922 г. на 52%, тады, цалі лік урадоўцаў за гэты час паменшыўся на 7%. Прадуктыўнасьць працы работнікаў супраць 1920 г. павялічылася на 240%.

У тэкстыльнай прамысловасьці сытуацыя таксама паляпшаецца. Абшар засеяны хлапком у Туркестане павялічыўся з 450.000 дзесяцін да 180.000 дз. Прадукцыя паўфабрыкатаў у працягу апошніх 1½ гадоў павялічыся на 700%, а прадукцыя гатовых матэр'ялаў на 430%. Прадукцыйнасьць працы і машынаў у большасьці фабрык дайшла да перадваеннай нормы.

У земляробстве таксама сталае паляпшэньне. Абшар ужыткаў на Украіне павялічыўся на 13%. Прадбачыцца зьлішак хлеба ў г. г. на 787 мільёнаў пудоў. Сьледам за павялічэньнем прадукцыі павялічываецца і вывоз заграніцу. Англія адтрымала ў 1921—22 г., як заявіў у ангельскім парлямэнце сэкрэтар міністэрства гандлю, 470.000 гэкталітраў газы. У другой чэцьвярці г. г. Радавыя Рэспублікі вывязьлі праз порт у Батуме і Новарасійску 82.000 тонаў нафтавых прадуктаў на сумму 600.000 фунтаў штэрлінгаў.

---

Францускі сэнатар дэ-Монзы, што сьздзіў у Радавымі Рэспублікі, каб завязаць гандлёвыя зносіны, варочаецца ў Парыж.

Быўшы Нямецкі канцлер Вірт заявіў, што мэтай яго падарожы ў Маскву ёсьць увайсьці ў паразуменьне з прадстаўнікамі радавых прамыслова гандлёвыя сфэраў

## ШВАЙЦАРЫЯ.

Процэс проціў забойцы Вароўскага распачнецца 5 лістапада.

## ІРЛЯНДЫЯ.

Выбары ў ірляндзкі парлямэнт прашлі спакойна. Згодна дасюляшніх вынікаў урадовая партыя адпрымае 35 манд. Рэспубліканцы адтрымалі 16 мандатаў, земляробы—4, партыя працы—, 14незалежныя 12.

20 мандатаў рэспубліканскай партыі уневажнена ў тым ліку 5 кабет. Дэ-Валера у графстве Кляр адтрымаў у 3 разы больш галасоў, чым гэта патрэбна для адтрыманьня мандату.

## АНГЛІЯ.

Па даным статыстычнага ўраду агульны лік беработных у Англіі выносіць 1.223.300; лік безработных у параўнаньні з папярэднім тыднем павялічыўся на 11.426 чалавек.

## Агітацыя Радзіча.

Радзіч прыслаў з Лёндыну да харвацкай сялянскай партыі два пісьмы, у якіх паведамляе, што распачаў перагаворы з ангельскім урадам і ангельскія палітычныя колы дужа зацікаўлены справай Харвацыі.

## Ліга Нацыяў.

У францускіх палітычных колах ходзяць чуткі аб тым, што на парадку дня прадстаячай сэсіі Лігі Нацыяў будзе пастаўлена справа прыняцьця Нямеччыны да Лігі Нацыяў.

## Грэка-італьянскі конфлікт.

Рада амбасадараў вызначыла з італьянцаў камісію для ўстанаўленьня граніцы паміж Грэцыяй і Албаніяй. Сябры камісіі нявядомымі асобамі былі забіты. З гэтай прычыны дайшло да вострага конфлікту паміж Італіяй і Грэціяй. Мусоліні лічыць урад Грэцыі адказным за забойства і дамагаецца, каб грэцкі ўрад 1) афіцыяльна апраўдаўся; 2) адправіў урачыстае жалобнае пабажэнства па забітых пры ўчасьці ўсяго ўраду; 3) аддаў італьянскаму флагу гонар праз грэцкі флёт; 4) правёў сьледзтва пры прысутнасьці італьянскага аташэ ў працягу 5 дзён; 5) пакараў сьмерцяй ўсіх вінаватых; 6) заплаціў 50 мільёнаў ліраў ў працягу 5 дзён; 7) аддаў вайсковы гонар забітым.

Урад Грэцыі, лічучы дамаганьні Італіі за абразу для Грэцыі і ня згодныя з яе сувэрэннасьцю, не згаджаецца на выпаўненьне 4, 5 і 6 пунктаў італьянскіх дамаганьняў і зьвярнуўся да ангельскага ўраду з просьбай аб пасрэдніцтве.

Рада амбасадараў выслала ўраду Грэцыі ноту пратэсту з прычыны забойства. У Італіі адбыліся проціграцкія дэмонстрацыі.

## Адозва Чырв. Інтэрн. Проф. Саюзаў да пролетарыяту Польшчы.

Львоўская „Trybuna Robotnicza“ паведамляе, што Выканаўчае Бюро Чырвонага Інтэрн. Профэсыянальных Саюзаў выдала адозву да пролетарыяту Польшчы, ў якой абгаварывае цяжкае палажэньне працоўных у барацьбе з усё ўзрастаяючай дарагоўляй, з абніжэньнем работніцкіх заработкаў, у абароне здабытых дагэтуль правоў. Абгаварыўшы ганьбячую работу правадыроў P. P. S., N. P. R. і хадэкаў. заклікае пролетарыят Польшчы да адналітага фронту. „Калі хочаце перамагчы буржуазію—чытаем у гэтай адозве — павінны стварыць адну споеную армію. Неарганізаваныя работнікі ўваходзьце да клясавых саюзаў. Усе работнікі, належачыя да іншых саюзаў, старайцеся аб злучэньні гэтых саюзаў з клясавымі на грунце змаганьня з буржуазіяй. У профэсыянальных саюзах прымушайце сваіх правадыроў да барацьбы з капіталам, не дапушчайце да выключэньня з саюзаў рэволюцыйных элемэнтаў. Зрабеце з вашых саюзаў запраўды клясавыя арганізацыі, ахопліваючыя ўсіх работнікаў, арганізацыі, якія могуць стаць на чале ў барацьбе за свободу.

Работнікі ўсіх профэсыяў злучайцеся ў змаганьні за рабочую плату, выстаўляйце аднолькавыя жаданьні для ўсей работніцкай клясы, бо толькі націск усей работніцкай клясы зможа забясьпечыць перамогу кожнай профэсыі.

Для барацьбы з усё ўзрастаючай дарагоўляй, якае выклікае ўсё большую нэндзу ня толькі работніцкай клясы, але і сельскага пролетарыяту, бяднейшых ся-

зьбірацца на панадворак пастарунку, але наляцеўшы бурай кіраўнік усіх разагнаў; калі сталі пытаць прычыны забойства, дык жонка кіраўніка пачала ўсім баіць, быццам арыштаваны сам застраліўся, бо ён адзін сядзеў запёртым і меў карабін паліцэйскі, ды ўсё глядзеў у вакно і маліўся, відаць надаела яму жыць. У гэтыя чуткі ніхто ня верыць, бо арыштаваных ніколі не астаўляюць без стражы ды яшчэ з карабінам. Дурны ён будзе страляцца, лепш-бы уцёк ды дакуманты і касу мог-бы узяць з пастарунку. Апрача гэтага ўсім вядома паганая прывычка ягамосьця кіраўніка, які пры дапросах любіць устаўляць дула равальвара ў горла.

Хай яно пропадам прападзе гэткае жыцьцё.

**Пак.**

**Пружанскі п.** (Горадзеншчына).

Якуб Якушэвіч з мястэчка Сельцы быў арыштаваны за тое, што ехаў ў таварным вагоне. Арыштовалі яго а 4 гадзіне ў дзень 13 жніўня, а ў 12 гадзіне ночы таго дня быў прывезены ў трупярню мерцьвяком. Мэдыцынская сэкцыя даводзіць, што Якушэвіч памёр ад алкаголю, а жыхары Саколкі могуць пасьведчыць, што ён, перш чым памёрці, быў страшна зьбіты, так што вельмі магчыма, што Якушэвіч памёр з пабояў. Праездам праз Саколку быў у гэты час наш пасол Валошын, які на свае вочы бачыў сем ранаў на нябошчыку (разбітая патыліца, зьбіты ўвесь левы бок). Справа бязумоўна дойдзе да суда, а ці вінавайцы будуць пакараны?

**Бывалы.**

**Забастоўкі на вёсцы.**

Сяляне, якія наняліся працаваць пры будове маста праз раку Грыўду забаставалі, лічучы крыўдным для сябе працаваць па 10000 м. у гадзіну, Дамаганьні іхнія былі задаволены.

Сяляне, якія працавалі пры ачыстцы канаваў у Пінскіх балотах, забаставалі дамагаючыся аплаты за працу 7000 м. у гадзіну замест атрымываных 5000 м. І тут забастоўкай дабіліся свайго.

**Сусед.**

# Дoпісы.

## З Латвіі.

### Прэзыдэнт Латвіі ў Розенова.

20-га жніўня Прэзыдэнт Латвіі, Гр. Я. Чакстэ, адведаў самы ўсходні куток Латвіі—станцыю і мястэчка Розеново.

Мястэчковая адміністрацыя і інтэлігэнцыя зрабілі Прэзыдэнту прыём, у якім прыймалі ўдзел і тутэйшыя беларусы.

Пры прыездзе Прэзыдэнта со станцыі дзеткі беларускае Розеноўскае школы, на чале са сваймі настаўнікамі, спаткалі Прэзыдэнта і засыпалі ўвесь яго экіпаж кветкамі. Вучыцелькі гр. Гравіт і гр. Кудраўцава прывіталі Прэзыдэнта прамовамі ў беларускай мове ад імяні настаўнікаў і дзетак Розеноўскай Беларускай школы, якая зьяўляецца самай многолюднай беларускай пачатковай школай у Латвіі і мае 250 вучняў.

Прэзыдэнт адказываў прамоўцам у латыскай мове.

# Усячына.

### Каму Францыя саюзьнік?

Вялікае незадаваленьне і трывогу высказываюць польскія газэты па поваду таго, што Францыя да гэтуль ня выдала пазычкі. А тым часам француская газэта „Les Ailles“ павадамляе, што над Парыжам стаіць цэлая эскадра самалётаў, пабудаваная лепшымі францускімі канструктарамі на лепшых францускіх заводах. А на хвасьце і крыльлях кожнага самалёта чырванее бальшавіцкая зьвязда.

Вось і саюзьнік, якім польскія паны так ганарыліся.

### Польшча багацее.

З дня 30-га жніўня Польская Каса Пазычкова выпусьціла новыя паперовыя грошы аж у 250000 марак. Грошы гэтыя зробяць вялікую палёгку для пузатых кяшэняў разбагацеўшых банкіраў, фабрыкантаў, абшарнікаў, спэкулянтаў і іншую панскую хэўру.

# Гаспадарскія парады.

### Аб папарах.

Гарох, выка, канюшына і падобныя ім расьліны могуць сьцягіваць з паветра у зямлю навоз, ды пасьля на іх збожа добра родзіць. У нас на папары нічога ніколі не расьце, і папар пустуе; а за граніцай мала дзе ўбачыш папар: там аўсянішча з восені падгорываюць, а вясной вывозяць ужо гной, загорываюць яго і сеюць выку; гэтай выкай лепш пракарміць можна скаціну, як на пустым папары. Як толькі выка падрасьце (—а касіць лепш тады, як яна цьвіце, не дапускаючы да струкоў, бо надта работа ўся спозьніцца), яе збіраюць і зараз-жа, не чакаючы, загорываюць, а ўжо пазьней, як зямля праляжыць за два тыдні, сеюць жыта. У нас гаспадары ганяць сяўбу ў адсеве і кажуць, быццам гэта шкодзіць жыту, але папраўдзе то яно бывае затым, што найчасьцей гаспадар пашкадуе ці выкі, ці гароху скасіць тады, як яны цьвітуць, і пакідае на насеньне, ды як зьбярэ, то зямля яшчэ ляжыць няпрыгорана,—а гэта найгорш. Каб у адсеве можна было сеяць, трэба рана скасіць выку ці гарох на корм, ды зараз падгараць поле; тады і жыта будзе добрае, бо зямля збагаціцца азотам, і папар пусты ня будзе.

Цяпер часта сеюць адну расьліну толькі на тое, каб яна багаціла зямлю азотам і каб пасьля загараць яе на гной. Гэтая пасьліна завецца лубін.

### Як пазнаць гады каня па вачах.

Зазвычай пазнаюць гады каня па зубох, але можна пазнаць гады каня і па вачах, па зморшчках на ніжняй павецы ад шчакі. Калі конь кончыць сем гадоў, то ўжо па зубах трудней пазнаваць, за тое тады зморшчкі дужа выразьныя. Хочучы пазнаць, гады каня трэба глядзець да васьмі гадоў па зубах, а пасьля 8 гадоў творацца зморшчкі;—што год прыбывае па аднэй складцы. Карацейшая складка утвараецца апошняй вясны.

### Ахвяры на прэсовы фонд.

92.000 м. п. сабрана на мітынгу. 28. VIII. ахвяраў на белар. газэту ў м. Хаценчыцы Вял. павету, ад гр. Чапепца — 15.000 м., Грыпуша — 120.000 м., Саўчыка—10.000 м.

230.000 м. сабрана на пасольскіх мітынгах ў Іодах, Пагосьце, Барадзенічах і інш.



### Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, І І Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеускі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Горадна**, Мастовая 9.
9) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв, 1
10) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
11) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
12) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
13) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.
14) **Беласток**, Нова-Варшаўская вул. № 83.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.

## Паведамленьне.

Гэтым даводзім да ведама ўсім нашым падпішчыкам, што газэта „Вольны Сьцяг“ мае пастаянны аддзел „Юрыдычныя парад“.

Розныя запытаньні з апісаньнем справы просім прысылаць на адрэс Рэдакцыі (Wilno, Wileńska 12—6). Адказы і парады будуць друкавацца ў газэце дарма.

**Рэдакцыя.**



Рэдактар-Выдавец **Я. Лагіновіч**. Друкарня **Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.